НІНА ЗАГОРСКАЯ

# ЯВАР

ВЕРШЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

* * *

Дзякуй, Мама, за чуйнае сэрца,
Якім ты мяне надзяліла.
Свет шырокі наўкруг —
Дзякуй,
      Мама,
            за крылы.
Дзякуй за шчырасць, Мама,
Якой адпусціла нямала,
І за роднае слова,
Што пайшло на аснову
Працы маёй найпершай.

* * *

Нідзе няма такіх бяроз,
Як на маёй Радзіме,
Такіх русявых доўгіх кос,
Такіх азімін.
А як згрызот
Тугая повязь —
Я да бяроз
Іду на споведзь.
Нідзе няма
Такіх бяроз,

Як у маёй Айчыне!
Ад іх так гонка мураве,
Ад іх так светла галаве,
Што проста — немагчыма!..

### ЛЕНІНУ

Я да помніка кветкі,
Ільіч, пакладу —
Не вянуць...
З чыстым сэрцам да Вас
На параду прыйду —
Мацней стану.

Камуніст,
На суровай паверцы
Я за справу Вашу
Аддам
Сэрца.

* * *

Другу баліць — мне нялёгка,
Маме баліць — вельмі цяжка,
Сыну баліць — невыносна,
А Радзіме баліць —
Стыне сэрца ад болю.

## НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

Людзі кахаюць,
Адзін аднаго
Знаходзяць.
Насустрач
Адзін аднаму
Выходзяць...
Людзі у казкі вераць —
Адкрываюць ім сэрцы
І дзверы...
Даруйце мне, людзі,
Што на гэтай плошчы
Чэрвенем пяшчотным
Душа адчувае
Дыханне студзеня.

## ПЕСНЯ ХЛЕБА

Веснавая зямля
Прагне дажджу —
Каб напоўніць свае артэрыі
Яго жыватворнай сілай.
Прагне сонца —
Каб яго
жыватворныя промні
Абудзілі насеннае зерне.
Прагне жаўранка —
Каб пад спеў яго выспеліць
Песню хлеба!

## МУЗЫКА

Першы крык немаўляці — музыка.
Ліст на ветры трымціць — музыка.
Бусел плануе — музыка...

Мой продак далёкі,
Сабраўшы чароўныя гукі
У музыку, ім пачутую,
Нам, нашчадкам сваім,
Праз вякі — веставых —
Перадаў...

Слухаю сэрцам мелодыі —
Пазнаю пошум лісця,
Шум крылаў бусла,
Песню буры і ручая...

А яшчэ... першы крык немаўляці —
Гімн Жыццю!



Здзейсненыя справы —
Зоры залатыя.
Сяброў нашых сэрцы —
Промні залатыя.
А матчына сэрца —
Маё цяпельца.



— Я падару табе зорку...
— Зоркі тваёй не трэба.
— Я падару табе сонца.
— Сонца таксама не трэба.
— Я падару табе мора.
— Мора само мяне любіць.
— ...Вецер ласкавы, пяшчотны...
— Каб нарадзілася бура?!.
Твайго анічога-нічога
Мне не патрэбна. Не трэба!
Толькі сыдзі з маіх сцежак,
І не старайся суцешыць,
І не чапай майго неба.

## РОЗДУМ
## У БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Калі б вымяралі,
Каб вымераць толькі маглі
Горыч,
трывогу,
боль...
Калі б гэтыя хлопцы
У сорак першым
На кіламетры першым
Той вайны не ляглі,
Мабыць, ніколі
Не сустрэліся б мы
З табой.

* * *

Мары мае пра цябе —
Як аблокі.
Быццам на крылах —
Я з імі высока.

Помніш бярозу —
Паіла нас сокам...
Помніш вясну,
Лугавыя асокі?
Помніш лілеі
І явар высокі?..

* * *

Уварваўся ты ў мой лёс
Неспадзеўку.
Нібы нейкі землятрус
Ператрос
Мой узрост.
Памяць высветліла ўсмешка:
Нібы зноўку я бягу
Да маленства берагу...
Да мягуткіх мурагоў,
Да духмяных стагоў,
Да аеравых кос,
Да ліпнёвых
Зорных рос...

## ДОБРАЙ РАНІЦЫ!

— Добрай раніцы,—
Сказалі вочы.
— Добрай раніцы,—
Адказалі другія.
Яны былі шчадрэйшымі
За іх гаспадароў,
Смялейшымі,
Больш шчырымі за іх,
Хоць ведалі таксама —
Не ведаць не маглі —
Ды не хацелі прызнаваць,
Не прызнавалі
Умоўнасцей мільёнаў
Недарэчных,
Якія скрэсліць лёгка так маглі
Шчаслівы ранак...
— Добрай раніцы...
— Добрай раніцы...
І дасведчаны, вопытны розум
Не паспеў,
Не пасмеў перашкодзіць.
— ...Добрай раніцы вам,
Людзі!

## НА САЛАЎІНАЙ ВАРЦЕ БРЭСТ

Пражылкі чырвані між пліт...
Бярэсця вечны гарнізон
Над Бугам сном герояў спіць.
Зямля набралася крывёю.
На салаўінай варце Брэст.

Глядзіць за Буг, за небакрай
Перасцярогай мужны Вой...
Цвіце барвова
Белы бэз —
Зямля набралася крывёй.
Бруіцца пад бетонам гнеў.
Пражылкамі іскрыць між пліт.
Зямля свяшчэнная гарыць
Крывёю праведнай герояў.
І першай куляй і апошняй
Салдат забіты — не забыты.
І помніш ты,
І помню я —
Зямля набралася крывёю,
І помнім мы
Агонь бяды —
Казармы тут
гатовы к бою.
Краіну Леніна сабою,
Надзейнай зброяю
жыцця
Гатовы вежы
бараніць.

Пражылкі чырвані
між пліт...
Бярэсце грознае не спіць!

* * *

Як крыніцы
З-пад сэрца зямлі,
Як птушкі ў блакіт
Нябесны,

Як вецер
У светлы бор,
Як стрункі травы —
Да сонца,—
Адзін да другога
Прабіваюцца
Добрыя людзі.

* * *

У Давер
Не страляйце
Здрадлівым словам.

У Давер
Не страляйце
Думкай нядобраю.

У Давер
Не страляйце
Куляй сляпою.

Ну, няўжо вам
Трагедый бракуе —
Трагедый слоў,
Думак,
Куляў?!

Не страляйце
У Давер.

## СТРАЛЯЕ ПАМЯЦЬ

— Мама, восы ляцяць?
— Дочачка, гэта кулі.
— Мама, пчолкі такія?
— Дачушка мая, кулі...
— ...гэта мушкі такія?!
Я налаўлю іх, мама,—
І стрымгалоў малое —
Маці спыніць не паспела —
Кінулася напярэймы
Неразборлівым кулям,
Якія з ціўканнем
Уядаліся ў цела клёна,
Векавечнага мудрага дрэва,
Што люляла, гушкала мары
Дзеўчаняці малога.
...Дрэва не змагло ўратаваць.

## АПАДАЛІ ПЯЛЁСТКІ

Ападалі пялёсткі...
Свет увесь пашарэў.
Ападалі пялёсткі.
Свет надзеі гарэў.
Ападалі. Апалі.
Пажухлі ў траве...
Срэбрам, інеем сталі
На тваёй галаве.
Весні ранак. Завея.
Хмель вішнёвых садоў.
Ападалі пялёсткі...
Безнадзейнасцю ўдоў.

## НАСТАЎНІЦА

Часта пра лёс ваш думаю...
Думаю — рана
Ласкі бацькоў не стала.
Незагойная рана.
Балела. Не перастала.

...У дзетдоме расла сіроцінай —
Забрала бацькоў вайна.
Што з таго, што сканаў на асіне
Іх забойца.
А вы — адна...
Гадавалі сясцёр вашых людзі —
Развеяла гора па свеце...
Пагубіліся ўсе чацвёра:
Ведама —
дзеці...

...З Польшчы вестку прынёс
Спадарожны балтыйскі вецер
(Ажно праз трыццаць!),
Што — жывыя сястрыцы.
Пульс гарачы і часты!..
Звалі ў госці вас сёстры.
Боль і радасць прыйшлі адначасна.
Боль па сэрцы ударыў востра:
«Тата, мама яшчэ мо жылі б...
Нат магілы няма іх...
А без іх і без вас
Пражыла, як нямая...»

Тата з мамай
Попелам сталі.

...Дзе ж тых нерваў набрацца?! —
Каб скавалі са сталі —

I то ці ўтрывалі б...
«Слёзы, сцішцеся!» —
Гэтак
        вы сабе загадалі.
А сляза пабівае слязу:
«Горсть земли...»
Адкуль яе прывязу?
З чые
        магілы?!
Калі попел —
                        і той
У краі чужым
                        развеяны.

...Настаўніца, не плачце,
Слёзы схавайце веямі.
Ведаю —
            трагічна,
Размяняўшы пяты дзесятак,
Даведацца, калі
Адлік вашых дзён пачаты.
Вольга Аляксандраўна
Таболіч, не плачце...
Прашу вас, не трэба...—
                                    вы не сірата...
Настаўніца ў вас пачалася там,
На скрыжаваннях вайны,
Дзе ласкі не хапала,
Дзе не ставала хлеба...

...I калі сын мой кажа:
«У настаўніцы маёй, мама,
Вочы,
        як чыстае неба»,—
Рада за Вас.



Ў адначассе
На гады пасталела...
Падалося — вякамі
Я на гэтай планеце...
Гэта мяне да абораў
У Хатынях бясконцых вялі,
Гэта мяне ўсякі раз
У магілах брацкіх хавалі
І гаючыя нашы бары
Ад усіх смярцей ратавалі...
І ўсе беды, як ёсць у свеце,
І ўсе войны,
што ў свеце былі,
Сэрца маё гнялі,
сэрца на часці рвалі —
У імя дабрыні на планеце,
У імя Жыцця на Зямлі.

## ПЕРАЙСЦІ РУБІКОН!

Столькі было Рубіконаў...
Столькі спектакляў і роляў.
Столькі было перамог,
Столькі ўзлётаў, трывог...
Нават падзенняў. Далін.
Парыванні наперад вялі:
— Яшчэ Рубікон.
Хоць адзін...
Зноў недаспаныя ночы.
І начнымі гадзінамі

Зноў старанна надточаны
Дні.
А гады неадольна ткуцца,
Покуль вытчацца ўся аснова...
Толькі знойдзена сіл
зноў вярнуцца,
Каб сказаць
зноў натхнёнае слова —
Перайсці Рубікон!

...Да апошняй хвіліны натхнення
Да людзей ты ідзі.
Покуль сэрца жыве —
Рубікон перайдзі.
Ну, яшчэ хоць
адзін.
Перайдзі.

## ХІРУРГУ

Я даўно ўжо табе не пішу...
Сэрцам — помню.
Бо запалі глыбока ў душу
Рук тваіх жыватворныя промні.

## МУЗЫКА ДАВЕРУ

— А я... чакала.
— Чакала?! —
Яго такая захлынула радасць.

— Чакала,— яна ціхутка паўтарыла зноў.
— Мы ж дамаўляліся,— сказаў ён.—
Калі я не званю — не выйшла з часам.
Было такое? Ці я мо памыляюся?
— Было.
А я... чакала.

«Чакала...»
Яны маўчалі. Паміж іх
Гучала музыка маўчання.
Мелодыя даверу нарастала,
Сабою запаўняла свет,
І хутка ўвесь сусвет
Даверам дыхаў.
Пад чыстым небам —
без адзінай аблачынкі —
Гучала толькі музыка даверу.

## ЯК ЗОРНАЙ ВЕЧНАСЦІ РАДОК

Імгненне — вечнасці радок,
Акрыленасці поўнае,—
Як вышыні крутой глыток...
Безабароннасць — поўняю.
Душы сасмяглай неспакой.
Мяжа таленавітасці.
...«Гарадь» бярозкі за ракой
Без боязі, без літасці —
Зайздросцяць смеласці такой
Звышасцярожна мудрыя,
Што ўкрылі коўдрай-асакой
Свае камлі няўклюдныя
Ракіты старасвецкія.
Былых стагоддзяў сваякі

Прыцішыліся ля ракі:
Імгнення сталі сведкамі —
Як вышыні крутой глыток,
Як зорнай вечнасці радок.

## УДЗЯЧНАСЦЬ

Да Бярэсця ідзём — не маўчым.
Лёгкі дотык рукі — на збалелым плячы,—
Гэта Вы, добры доктар, давалі ключы
Ад чароўных загадак, ад казачных сноў...
Вызначалі маршруты
Да бароў і крыніц гаючых,
Да вадаспадаў у кручах...
Гаварылі ласкава, а здараліся — крута.
Вы лячылі не сэрца — Вы лячылі мой дух,
Падзялялі са мною сумненні мае і пакуты,
Як найлепшы таварыш, самы аддany друг.
Вось чаму праз гады і бязмежжа дарог
Родны мне, назаўжды, ваш гасцінны парог.

## ВЯСНА ПАМЯЦІ

Восеньскім вечарам
у каштанавай алеі
ля Абеліска
запальваюцца
неонавыя
ліхтары.
У іх святле

пад павевамі сумнага ветру
трапечацца
зялёная
Вясна.
Восеньскім золкім вечарам
у цяпле
неонавых ліхтароў
грэецца
каштанавая
Вясна.
І зімой тут жыве
Вясна —
Вясна
Памяці!..



У 1944 годзе на дзевятым кіламетры Маскоўскай шашы ва ўрочышчы Уруч'е пад Мінскам фашысты закатавалі трыццаць пяць тысяч мірных жыхароў і ваеннапалонных. З педантычнай дакладнасцю гітлераўцы прымушалі сваіх ахвяр капаць магілы даўжынёй 25 метраў, шырынёй — 4 і 3 — глыбінёю. «Трамбавалі» магілы гусенічнымі трактарамі. Бывала, па тры дні «стагнала» зямля...

Стагнала Зямля ад цяжкага болю.
Гнеў яе ў сэрцах асеў.
...Дваццаць пяць на чатыры
І на тры глыбінёю —
Гэта смерці

Трыста
кубічных
метраў,
Трыццаць тысяч на трыста —
Нянавісці...

«Хай скамянее зямля,
Што нарадзіла вар'ятаў,
Якія на грудзі дзяцей
Трактар маглі пусціць!
Хай перасохнуць крыніцы,
Што ўспаілі, на ногі ўзнялі
Свету ўсяго крывапіўцаў!
Хай у садзе варожым
Кожны яблык атрутаю стане!
Кожны колас на ніве яго
Хай
Ападзе!!!»
Гэта нянавісць,
Нянавісць нашых надзей!

Дваццаць пяць
на чатыры
І на тры
глыбінёю...
Гэта Памяць крычыць.
Не забыць
пра былое...
Дзе пагоркаў парогі
Засяваліся прысакам.

Боль і гнеў
Перамогі
Прараслі
Абеліскамі.



Праз сонцаўсходы мы ідзём
Над вогненнымі кручамі.
Паўпраўды нам не суджана.
Хлусні мы не навучаны.
Ідзём у сонца.
                    Доламі,
Сцяжынамі зыбучымі...
Зарукай — дружба мужная,
Як песня неўміручая.

## ГЕРОЮ БРЭСЦКАЙ ЦЫТАДЭЛІ

Мой равеснік, мудры і мужны,
Непахісны ў змаганні за мір,
Углядаецца ў бераг асмужаны,
Углядаецца ў быстры вір...

Мой равеснік паўстаў
                              нескароны,
Суайчыннік,
                салдат паўстаў
На фарпосце,
                у абароне,
І жывою легендаю стаў.
Каскай чэрпаў ты з Буга ваду,
Каб хутчэй
                кулямёт
                          напаіць.
Ты хацеў,
                каб Радзіма жыла,

І не думаў,
ці сам будзеш
жыць.

...Цішыня ля бязлюдных фартоў.
Цішыня
ля разбітай
цвердзі.
Тут апошнія
крокі
байцоў
Сталі першымі
у бяссмерце.

Брат мой,
шчыры дарадца,
равеснік,
Як на споведзь,
Іду
На спатканне з табой.
Кроіць сэрца
грозная песня:
«Уставай
на смяротны бой!..»

«Мроі» Шумана,
Шумана мары
Над штыком узлятаюць за хмары...

Брат мой,
друг мой,
дарадца,
равеснік...—
Гэта сэрца тваё
стала Песняй!



Білася Балтыка ў бераг,
Пенячы захлісты-хвалі.
Вочы глядзелі ў вочы —
Радасці не хавалі.
Білася сэрца ў сэрца,
І нараджалася вера —
Роду людскога
Спрадвечнай
Дружбы не змераць.

## КІПАРЫСЫ

Вымкнулі ў неба —
Неба трымаюць галовамі.
Нібы салдаты
Застылі ў суровым страі.
Пэўна, так трэба.
Хіба хацелі — суровымі?!
Вымкнулі ў неба бяздоннае
У рашаючым самым баі.

## СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ

Мама мая
Нарадзілася сёння...
Мама жыве ўжо дзесятак сёмы.
Роздум пра маміну долю

Быццам рана...
Рана-рана,
Да зары, мая мама ўставала.
Чатырнаццаць дачушак, сыночкаў,
Як магла,— сцерагла, ратавала...

Цяжка на ногі
нямоглых,
Цяжка без лекаў
падняць —
Сіл у цябе
не хапіла
Падлесак
да сонца
узняць...
...Дзесяць галінак-націн
Давялося
Маме
Аплакаць,
Дзесяць хаўтурных песень
Разам з сэрцам сваім
У зямлю пахаваць...

Поўдзень. Высокі поўдзень.
Знік пад нагамі цень.
Мама,
Сёння
Светлы твой дзень.

* * *

Дабрыня — гэта сонца.
Пад цяплом яе жыццядайным
З зярнят прыязнасці
Нават на скалах,

На камянях
Вырастаюць магутныя дрэвы —
Дрэвы Дружбы.

## СОН

Шукала.
Знаходзіла
Сярэбраныя каснікі,
Пляцёнкі жэмчугу,
Карункі світанняў...
А залатога персцянёчка,
Твайго вясельнага дарунка,
Не было.

## ЛЯЦЯЦЬ БУСЛЫ НАД БЕЛАРУССЮ

*Л. А. Івасенкавай*

Ляцяць буслы над Беларуссю,
Дамоў вяртаюцца буслы.
І я ў цяпло буслянак рвуся,
У край, дзе крылы узраслі.
Вось так жыву:
Вясною кожнай
Туга — што неаплатны доўг...
Ірвецца сэрца ў край мурожны,
Які я ўпоперак і ўздоўж
Прайшла расой і колкай пожняй...
Ляцяць буслы над Беларуссю!
Жывуць надзей маіх буслы...

## СОНЦА

За весну і лета
Сады і палеткі
Ўвабралі сілу
І радасць сонца.
Яно — ў вінаградпай гронцы,
У вішні-чарэшні,
У грушы даспелай,
У сліве,
Жоўтай, карычнева-сівай...
Сонца гарыць арабінавай гронкай,
Гупае ў грады антонаўкай звонкай.

## ПАРТЫЗАНСКАЕ ІМЯ

Не стала Аксаны...
«Не стала Аксаны!..» —
Бор партызанскі
Ў жалобе шуміць.
Шумскай не стала.
Заўчасна завяла,
А ёй бы яшчэ
Жыць ды жыць...
Як няслі мы яе
Над зямлёю —
Лес галасіў,
Сыпаў лісце
Наўзрыд.
Долу пахілены
Кроны-чупрыны
У паднямонскім
Суровым
Бары...

## СВЕТ ПЯЕ...

Прымаю дружбу
І нясу
Паходню-эстафету.

І мне здаецца —
Свет пяе.
Я —
Падпяваю свету.

Вазьміце дружбу
З маіх рук —
Сяброўства эстафету.

Хай будзе вечным
Сонца рух!
Хай дружба
Правіць светам!

## ЛЮБОЎЮ ПРАРАСЦІ

Як цяжка гаварыць,
А цяжка як маўчаць...
І не знайсці ключа,
Як ад твайго пляча
Мне адхінуцца, адысці.

Відаць, растку любві
Любоўю прарасці!

## ЗІМОВЫ ГОРАД

Як чароўны які карабель,
Адплывае мой горад у казку
І махае мне белым, бялюткім крылом,
І на сонцы крыло ружавее...
Адплывае мой горад у казку.

* * *

У гэтым свеце
Нам не размінуцца.
Не разысціся,
Міма не прайсці.

І да вытокаў болю —
Не вярнуцца.
І нагаворы горкія
Клясці.

Але нікому,
Божа правы,
Не развясці
Між нас масты.

Якое шчасце —
Ўстаць да сонца
І ведаць: дзесь
У гэтым свеце —
Ты.

## МАМІНЫ РУКІ

Бярэмя бялізны з марозу
Пахне мамінымі рукамі...
Пахне домам,
дзяцінствам,
шчасцем,
Пахне домам пасляваенным
З кудзеляю дыму над комінам,
З квашанаю капустай,
З салёнымі агуркамі,
З бульбай у мундзірах,
З рэдкімі ў хаце выжаркамі
І з алеем, смачнейшым ласункам...
Бярэмя бялізны з марозу
Пахне домам пасляваенным,
Пахне домам пазнейшым,
з дастаткам,
Пахне мамінымі рукамі...
Ім не пад сілу болей
Бялізну з марозу прыносіць
(Маміны рукі,
даўно ўжо,—
Як горка! —
спадчыну просяць).
Ім не пад сілу болей
Зварыць нават бульбы ў мундзірах.
Ім ледзь пад сілу сцягнуць
Ражкі яе ветразя-хусткі...
А бялізна з марозу будзе
Вечнаю згадкай маленства,
Будзе пахнуць
домам і шчасцем,
Мамінымі рукамі.



Сняданкамі ўлегцы,
Безабеддзем зачастым,
Вячэрамі выпадковымі,
Нелянотнымі днямі вучобы,
Непакорай ударам лёсу
У дзверы здароўя
Юнацтва нішчымнае грукае.
З гадамі мужнеюць душы.
У дзверы сталасці нашай
Грукае светлая памяць...



Вочы твае ўвабралі
Столькі ў сябе сінечы,
Ласкі вясноватага ветру,
Сілы марскога прыбою,—
Дык ці дзіва, што ў гэткіх вачах
Загараюцца зоры.

## НА ПЛАНЕЦЕ МАЎЧАННЯ

Рвануліся з безнадзеі
У новы дзень наш.
Моўчкі насупраць стаім —
Захлынаюцца салаўі...
І такое высокае сонца!

Хіба можна шчаслівымі быць
Так бясконца?!
У маўклівым яднанні надзей
На спакой на планеце —
Дзеля шчасця дзяцей,
Дзеля ззяння шчаслівых вачэй...
Ах, які безнадзейны
На планеце Маўчання
Дождж сячэ!..

## АКТРЫСА

Стомленая,
Замлелая птушка,
Добры вечар.
Дарог развінутыя стужкі
Вінаватыя ў нечым,
Што заўчасна
Беліць снег
Галаву.
Толькі ў сэрцы
Агонь нязгасны.
Толькі крылы
У дарогу завуць.
На зары, а неўпрыцям,
У абдымках адкрыццяў
З вышыні ў гонкім лёце
Упадзеш у траву...
І апошні віток
Будзе
неба глыток.



Нараджаюцца
і хаваюцца...
Плачуць,
смяюцца,
цешацца...
А рэкі плывуць,
а крыніцы бруяць,
а моры няўтомна
плешчуцца...

## СОСНАМІ ПАЗВАНЮ

Калі б я магла не зманіць —
Не зманіла б.
Калі б я магла паланіць —
Паланіла б.
Ах, паедзем,
Едзем з табой у Харошша! —
Табе я там соснамі пазваню
Ці... яшчэ раз зманю.

## ТРЫВОЖНАЯ КАМАНДЗІРОЎКА

Вы забыліся там пра мяне,
У буднях сваіх натхнёных?
Я і ў іўеўскай старане
Пра вас помню.

Не гнявіце праўды вякоў,
Не шукайце ад лёсу збавення...
Не даехаўшы Ліпнікоў,
Ля магіл, старадаўніх скляпенняў
Мог мой шлях назаўжды абарвацца...
Як жа можам мы блізкіх цурацца?!
Як нам часу — для іх! — не стае!
...Неадкладныя справы і праца.
Іх не стане, калі назаўсёды
Нашы блізкія рукі свае
На грудзях сваіх зложаць.
Як жа мы у жыцці гэтак можам?! —
Носім кветкі тады, калі позна.
Нават плачам тады, калі позна...
Гэта ж хвоі на могілках звеку
І шумяць мо таму так пагрозна,
Што пад імі ляжыць столькі песень,
Недапісаных, недаспяваных...
Вы бывалі у мёртвым лесе?!.
На жывых мы чамусь забываем.
Хай мароз, хай мяцеліца вые! —
Мы патрэбныя блізкім жывыя.
На шляхах нашых беды, стыхія...
Мы патрэбны родным жывыя.
Нас не зломяць сілы любыя!..
Мы любімым патрэбны жывыя.

## МОРА — МАРА МАЯ

*Святлане Братушэнка*

Незнаёмае мора
Клікала змалку мяне.
Сіняе-сіняе,
Чорнае-чорнае,

Белае і бурштынавае,
Ціхае і ласкавае,
Грознае мора,
З валам дзевятым,
З горам...
Злавеснае, штармавое.
А з'явілася...—
Чорнае мора, жывое.
Увайшло у маё сэрца, як песня.
Дыхала мора прадвеснем.
А з вежы Ахун-гары
Мора вясёлкай гарыць.
А там,
        па зялёных хвалях,
Белы ветразь плыве.
А там,
        у зялёных хвалях,
Неразгадана казка жыве.
Над узбярэжжам мора
Белагрудыя чайкі крычаць.
Там, у трывожнай бухце,—
Сэрца майго прычал.
Мо таму гэтак часта
Сніцца мора мне па начах.
Мора — не проста мара.
Мора — жывы прастор.
А можа, дарога жывая
Да неадкрытых зор...

* * *

Сапраўдную цану
Спазнаем,
Калі страцім...

Душы цану,
Якое не вярнуць,
Любві,
Якое не вярнуць,
Агню,
Якому нас не грэць,
Сяброў,
Якіх нам больш не стрэць...
Тых ранкаў, дзён, начэй,—
Век па якіх тужыць.
Тых сэрцаў, без якіх
Нельга і дня пражыць...

Сапраўдную цану
Любві, надзеі, працы
Мы спазнаём, калі
Іх беззваротна трацім.

* * *

Не апускай вочы долу.
Не апускай!
Калі мулка душы тваёй —
Не апускай.
Калі радасцю перапоўнена —
Не апускай,
Калі сэрца другое параніш,
Калі украдзеш чыю радасць —
Апусці.
Калі ж вочы
Радзіме здрадзяць —
Хай не стане іх!

5*

* * *

*Яўгеніі Янішчыц*

...А вочы тояць многа слёз,
Тугу па родных — па крыві.
Хоць вецер лёс твой
Ператрос,
Ды вочы, поўныя любві,
Крынічаць, светла зіхацяць,
Гарaць пралескамі прадвесня,
Нібы вясёлкі той працяг,
Што стала песняй.

* * *

Каб цвіла ты кветкаю вясновай,
Каб цвіла ты кветкай верасовай,
Каб цвіла ты кветкаю каліннай...
Божа мой — ніколі... не палыннай!

* * *

Жартавалі калісьці бабусі,
Што ў маёй Беларусі
Ўсе дзяўчаты — красуні,
Ўсе дзяўчаты — Марусі...

Над белаю Белаю Руссю
Пралятаюць у вырай гусі.

Іх дарога —
                    няблізкі свет.
І хусцінкамі белымі
Ім услед
Махаюць Марусі...

## ПАДАРУНАК

Жыццё
Да рубяжа прыйшло.
Досвіткам
Дарылі песні.
Раніцай, поўднем — ружы.
Пад вечар — унукаў,
Вечарам познім — праўнукаў.

Апоўначы
Дзеці
Падарылі бялюткі саван,
Замежны, з чужымі узорамі,—
Быццам не рос на зямлі роднай лён,
Быццам матчыны рукі не пралі яго
І палотнаў не ткалі,
Са сваімі узорамі.

Падарылі.
Чужы.
Белы-бялюткі,
Да болю ў вачах слепаватых,
З чужымі узорамі саван —
У дзень... нараджэння.

* * *

Акіян паэзіі,
Чысціні,
Вышыні,
Дабрыні
Прыняслі ў мой пакой
Тваe вочы...
У іх глыбіню невымерную
Баюся зірнуць —
Каб позіркам неасцярожным
Не скаламуціць.

* * *

Не было
Такога туманнага
Дня у поўдні маім, мой мілы...
Прайду ля акна жаданага,
Прайду, а ўсё міма і міма...

## АСКОЛКІ СОНЦА

*Маме*

А на нядзелі
Паслаць зноў кроплі —
Асколкі сонца...
А мо сляпое

Тваё аконца
Ды развіднее:
Спрадзеш і воўны
Валаконцы,
Як добра ўднее —
Шкарпэткі ўнукам,
Пэўна, звяжаш...
Асколкі сонца...
Тужыць пража.
Пруткі б у рукі.
А ты не вяжаш.
А ты не можаш.
А ты не бачыш...
І медыцына
Пакуль бяссільна
Твой лёс папраўіць,
Пераіначыць...
І я ўсе кроплі —
Асколкі сонца —
Надзеяй ценкай
Ў тваё аконца...

## ДА ЧУФУТ-КАЛЕ

Усё вышэй, вышэй, вышэй
Над морам,
Усё бліжэй, бліжэй, бліжэй —
Горы.
Успенскі храм.
Сабор мяцежных,
Вольналюбівых,
Моцных духам...
А ля аблок, у небе — там
Чуфут-Кале...

Сляды разрухі,
Сляды былой
Ваеннай славы,
Сляды зацятай барацьбы,
Сцяжыны-вулачкі налева,
Сцяжыны-вулачкі направа...
Дамы, як соты,
І байніцы —
Жылі тут воіны і ханы,
Але ніколі — не рабы.
Калі падчас шалёны вецер
Абудзіць ветразі вякоў —
Зноў афарбуецца дасвецце
Крывёй — ад стрэл і ад клінкоў.
Тут зноў чутно іржанне коней,
Нашэсця гіканне і крык.
Ляцяць захопнікі з адхонаў.
Разносяць іхні крык вятры —
Каб заваёўнікі пачулі
І зразумелі ўсе навек:
Чужой зямлі, чужое волі
Не мае права чалавек
Адняць,
Стаптаць —
Ніхто!
Ніколі!

## ДРЭВА НАДЗЕІ

Мара — камель дрэва.
Крона — зорнае неба.
Бяда непапраўнай разлукі
Так скаланула дрэва,
Што на змярканні

Горкімі росамі зоры
Палі на травы,
Каб ніколі для нас не было ўжо
Дрэва надзеі.

* * *

Цалую
Радкі твайго адзінага
Ліста,
Які, нібыта
Бяссільны птах,
Зажураны,
                    падбіты...
Радкоў самота і слата —
Апошняя і першая вярста.

* * *

Калі я прасіла —
                    «прыйдзі»,—
Ногі няслі цябе прочкі.
Калі адвярнулася я,—
Ноч парэзаў на стужкі, на сточкі
І ўсё скардзішся свету,
Што не спіш,
А заснеш —
                    мяне сніш...



Нішто
Не верне той пары,
Калі чаромухі цвілі,
Калі гарэлі у бары
Між папараці свечкі...
Свой жар запознены
Студзі.
Мой сон глыбокі
Не будзі.
Даўно ўтравелі сцежкі.
...Хіба такія сілы ёсць,
Што ўваскрашаюць
Маладосць?!



Не трэба.
Я захлынаюся —
Даўно ўжо — без цябе! —
Ў такім адчайным небе...
Яшчэ раз. Без цябе.



Вы дзівіліся сонцаўсходу?
Цалавалі дасвеццем зоры?
Будавалі палацы з мроі?

Адкрывалі вясёлкі на травах?
Забывалі пра грошы і славу?
А вятрам вы расчэсвалі грывы?..
Калі так — вы былі шчаслівым.

* * *

Хоць раз асмеліцца
Зірнуць
У вочы сонцу
І позірку пасмець не адвясці,
Каб зразумець
Свячэння таямніцу.
Не адвясці! —
Пад страхам страшнай кары —
Недараваным быць за вераломства...
Хоць раз асмеліцца...
Зірнуць.
І воч не адвясці.

* * *

Мне б
Зямлю навучыцца слухаць
І свой Час!

Песні маці-Зямлі
Весняй
          руннню
Вякам перадаць.

Для нашчадкаў апець
Радасць
І боль зямны
І да шчасця такога
Дажыць,
Каб ні здрады
І ні маны.

Мне б да светлай веры
Дайсці,
Што сонца і вецер —
Толькі нагбом,
Што навекі
Сканае вайна
І ніхто на планеце
Нідзе
Ніколі не будзе
Рабом.

* * *

Жывіце спакойна.
Вам жа вельмі спакойна жылося.
...Неяк раптоўна
Захапленне маё пачалося.

Так жа раптоўна
Болем крутым прарасло
Падраненае ў лёце
Даверу
        крыло.



Каб магла развеяць я твой сум,
Боль магла на радасць замяніць,
Збавіць ад згрызот і цяжкіх дум,
Шчасце ў тваім сэрцы пасяліць —
Ўсё зрабіла б, ахвяруючы сабой,
Узамен не просячы прызнання...
Ці... хоць сцішыць невымерны боль.
Гэта мо не я — маё каханне....



Вас
Шукаюць вочы мае,
Вас
Калышуць думы мае,
Вас
Чакае сэрца маё —
Дык няўжо
У вас знойдзецца сілы...
Абмінуць?!.

## НЕ НАБЛІЖАЙСЯ!

Не набліжайся —
Баюся, што воблік твой
Утраціць трывожную радасць
Святочнага абуджэння,

Праменнага ззяння зары.
Не набліжайся —
Баюся,
Што паблякне,
Выцвіце чысты блакіт,
Згасне маланка вачэй,
І тады нат сабе не паверу,
Што яна
Парадніла.
...Каб сустрэча-знаёмства
Навек адкрыццём засталася,—
Не набліжайся!

## КАВАЛЬЧУКІ

Кавальчукамі звалі мамін род...
Мой прадзед кавалём быў.
Сярпы каваў,
Падкоўваў
Так адмыслова коней...
Каваў нарогі
І на ворагаў мячы...

Прыйду на Сталавіцкую Гару —
Дзе прадзед мой спачыў,
Гара
Маўчыць...
І толькі ў соснах звоняць
Вятры,
Пушчанскі гнеў,
Стагоддзяў быль.

Мой прадзед кавалём
Вядомым быў...

...А зараз — брат каваль.
Куе ён коней
Чатырохколавых.
Грыміць, звініць, спявае
Сталь.
Мой брат куе.
Мой брат — каваль.

І хутка гоняць
Тыя «коні»
Па бездарожжы і па асфальце —
Каваль заўсёды
Куе без фальшу.
Куе, як прадзед
Мой каваў.

* * *

Калі сцяжынай запаветнай
Ішлі спатканнем да разлукі
Праз лес асветлены, прыветны —
Мне прысягалі вашы рукі.

Калі ў вачах, зялёных сонцах,
Крыляла вечнасць вышыні,—
Я верыла, што на бясконцасць
Далоні вашы з дабрыні...

* * *

Залатыя каласы —
Залатыя промні.
Колькі сонечнай красы! —
Помніш?..

* * *

Мой адзіны, мой родны,
Табе падару я
Сонца і мора.
Твой спакой вартаваць
Будуць горы.
Ганароваю вартай
Кіпарысы пастаўлю.
Тваю мужнасць і розум
У песні праслаўлю —
Дай мне
Цябе
Забыць.

* * *

Ты маўчыш.
І, можа, так лягчэй.
Адышлі
усе мае пакуты,
адышлі

усе мае трывогі,
адышлі
надзеі са снягамі,
адышлі ўсе беды —
з цягнікамі.
Толькі б'ецца сіратлівымі радкамі
ў сэрца
глуха,
можа, так патрэбная абоім
нам
разлука.

* * *

Памірала...
Кожны раз,
Калі паміралі сябры.
Кожны раз,
Калі паміралі родныя.
Кожны раз,
Калі паміралі надзеі...
І кожны раз
Вяртала да жыцця
Радзіма.

## МІСХОРСКІ ЭЦЮД

Тут кожны камень
Помніць Вас.
Хваінка кожная,
Дажджынка,

Марская кропля
Помніць Вас
І кожная
Мая крывінка.

* * *

Самотна, пуста без цябе.
З табой было — трывожна.
Не зайчык сонечны прабег,
А сполахі на пожні.
Турботны свет плыве ў сусвет,
У клопатах сваіх жыве.
Ды кліча памяць: след у след
Праз свет Галактык і камет,
Дзе свеціць вогненным пункцірам
Твой незабыўны свет і след.
О шчасце — памяць: ажылі
Трывогі-вёрсты, вёсны,
Што адышлі, што адцвілі, што адплылі...
І шчасця замець, шчасця замець —
А мы шчаслівымі... былі.

* * *

Праз горны сад, праз перавал
Пракладваем шляхі —
Пад небам поўдня, сінім-сінім,
Пад ветрабоем цёплым ліўнем
Даўнейшыя і новыя
Замольваем грахі.

## БАХЧЫСАРАЙ

### I

Сакалiная вежа —
Далiна подласцi,
Далiна жорсткасцi,
Далiна безвыходнага рабства.
Гарэмная далiна —
Вышыня надзей,
Спадзяванняў,
Мар,
Сонечных сноў,
Якiя, як шхуны
З уяўнымi ветразямi,
Разбiвалiся неадольна
Аб скалы
Жывёльнага
Бяздушша.

### II

Плача фантан надзей...
Слёзы скупыя, салёныя...
Плача не гадзiну,
                    не дзень —
Гора наложнiц бяздоннае.
Гора нявольнiц-славянак,
Гора дзяўчат-мусульманак,
Гора прынцэс, прыгажунь...
Скаланулася сэрца Паэта —
Ён дзве ружы паклаў — вунь
Гарацъ у няспынных слязах
Сэрцы кветак,
Як згаралi
На пякельным агнi прынiжэння
Сэрцы

Мацярок паняволі,
Калі беззваротна
Адымалі ад іх
Іхніх дзетак.

* * *

Цалую вочы, утомленыя працай,
Чаканнем родных —
з блізкіх і дальніх дарог,
Чаканнем шчасця, прыбоем славы,
Дыханнем зайздрасці зайздросных —
Кляймом пасрэднасці мярцвячай,
Расстаннямі, пасля якіх
Не вяртаюцца,
не прыходзяць,
Не садзяцца за стол бяседны...
Цалую вочы, і яны,
Прытомленыя доўгім шляхам,
Усміхаюцца маім вуснам.

* * *

Хай раяцца твае жаданні.
Хай паэмы і вершы — раяцца.
Расцалую цябе я раннем,
Калі птушкі на год гняздзяцца...

## ВЕРНАСЦЬ

У абдымках жалю
Зноў
Крутых...
Ведаю,
              што з даляў
Не напішаш
Ты.
Толькі сэрца веры
Не дае —
На чаканні
Вестачкі
Твае,
Толькі сэрцу
Вернасці
Стае.

* * *

І я не тая,
Што учора.
І Вы —
Другі ўжо
Чалавек.
Але да Вас
Заўжды вяртае
Туга жывая,
Дружбы повязь.
Радство душы —
Прамень трывалы —
Не абрываюць.
Не абрываю.

Праз снегавеі,
Па траве
Да Вас спяшаюся —
На споведзь.

* * *

Пачую кліч я
журaўліны —
І ў цёплы край, за сіні бор
Рвануся ў вырай
Ўслед за клінам,
Дзе ўсё азначана табой.
Я прылячу на бераг дальні.
І пралячу ля самых зор.
Туды, дзе сённяшні і даўні
Чакаеш, хмеліш, як чабор.

* * *

Кветкі,
Перш чым да Вас паспявала дайсці,
Паміралі.
Дарогі да Вас
Перашкодамі нечаканымі доўжыліся.
Вось стаяць прада мной
Тры букеты змярцвелыя —
Паноптікум
Скукожаных сустрэч —
І суха шаргацяць пялёсткамі: «Не лёс...»



Нечая постаць Вас нагадала.
Дрогнула сэрца: падумала — Вы...
Голас пачуўся ваш жыццядайны
І мнагамерны, як шум баравы.
Выплыў пагляд ваш — вочы у вочы —
Такі сустракаецца толькі аднойчы.
Мне падалося: насустрач Вам крочу...
Ваш вобраз уяўны, як вобраз жывы.



Калі б пажаданні твае
Промнямі сталі аднойчы —
Пэўна, не ведалі б людзі
Мяжы паміж днём і ноччу.
Калі б пажаданні выткаць
Поясам шчасця адзіным —
З даляў усіх і высяў
Вяртаў бы ён на Радзіму.



*Памяці Героя Савецкага Саюза*
*генерал-маёра В. М. Макарава,*
*на баявым рахунку якога звыш*
*трыццаці збітых варожых самалётаў*

Мяцеліца дуброў.
Мяцеліца трывог.
Няспраўджанасць надзей.

Хада падбітых ног...
І скрышаны ушчэнт
Варожы самалёт.
І ты... згубіў білет
На шлях адтуль. Зваротны.
І, можа, ў першы раз
Прылёг, гаротны...
Каб з-пад твайго крыла
Над борам, дзе спачыў,
Вярталіся ў жыццё
Унукаў самалёты.

* * *

— Нікуды
Ад мяне ты
Не пойдзеш,—
Гавару я...
І ў гэта веру.
А што як адчыніш
Дзверы,
Пераступіш парог
І... пойдзеш,
Каб ніколі
Да мяне не вярнуцца?!.

* * *

Званілі людзі —
Прасілі памагчы.
І яна памагала.
Прыходзілі, прыязджалі здалёк —

Памагала.
Папрасіла яна памагчы —
Здзіўленыя,
Людзі адвярнуліся.

* * *

Пасля двух пахаванняў,
На тыдні адным,
Цяжарам на сэрца
Думы ляглі...

...Людзі — нібыта яблыкі
На дрэве Жыцця,
Вечназялёным дрэве.
Налятае часамі
Шалёная бура —
Падаюць, падаюць,

Падаюць яблыкі долу.
Разам з пладамі даспелымі
Абівае непагадзь-шал
Зелянковыя,
Немаўлячыя нават.
Падаюць,
Падаюць людзі-яблыкі
Долу...

Толькі глуха, вусцішна
Стогне
Вечнасці вецер.

## ЗНАЁМСТВА

Усмешка азарэння.
Раскрыленыя рукі.
Сіл набіраюць дзеці.
Гадуюцца унукі.

А ты трывогу гасіш,
Хаваеш боль-палын.
Магла змаўчаць, што ў першым —
Навекі! — класе — сын.

Магла змаўчаць, што бегма
Спяшыла на курган.
Магла змаўчаць — шалёны
Пранёсся ураган.

Магла змаўчаць. Сказала.
Даверыла свой груз.
Яго на свае плечы,
Даверany, бяру.

Магла змаўчаць...
А ты
З тысяч прахожых
Выбрала чамусьці мяне.

Палавіню твой боль.
Удваіх
Ледзьве яго трымаем...
І мне падалося,
Што гэта дзеля цябе,
Дзеля праўды балючай тваёй
Выпала мне
Нарадзіцца.

## МАЎЧАННЕ — ЗОЛАТА

«Напішы радкоў хоць пару, родны.
Напішы», а ты маўчыш зацята,
Быццам на маўчанне мы закляты.
Выйшла ўсё чаканне. Неспакой свой
Перамножыла на вёрсты, падарожжы...
Вось і зноў каня свайго стрыножу —
Каб набраўся сілы на папасе.
Разбіраю пошту. Назапасіў
Час канікулярны вельмі шчодра.
Перачытваю — са мной гамоняць
Сваякі, таварышы, сябры...
Раптам паміж шчырымі радкамі —
Словы недаўменныя. Рукамі,
Роднымі, палётнымі рукамі
Выведзены словы недаўмення,
Непаразумення, адчужэння...
І падумалася: горкім быў урок
Продка геніяльнага, які
Боль свой перадаў нам праз вякі,—
«Маўчанне — золата».



Далікатна далоняй «матлатую»
Галаву тваю гладжу, «матлачу» я
І заміраю. Кожнай клеткай цябе я
Прымаю, як сябе, як другое «я».
Я захлынуся ад шчасця,
Я захлынуся ад болю
І не забуду ніколі
Светлую казку маю.
Светлую песню ма́ю.

## ШЧАСЛІВАЙ ЗВАРОТНАЙ ДАРОГІ

На развітанне месяц двухрогі
Шэпча: «Шчаслівай, шчаслівай дарогі».
Шэпча бяссонніца-Мілавіца:
«Са шляху да ўдачы ніколі не збіцца!»
Шэпча на золку ранняе птаства:
«Шчаслівай дарогі
ў гастрольнае царства...»
«Шчаслівай дарогі,
да-ро-гі, да-ро-гі,—
На стыках выстукваюць порсткія колы.
— Забудзьце ўрачоў і забудзьце уколы...»
...Шчаслівай, натхнёнай,
зваротнай дарогі!

## ПАПАРАЦЬ ВЕРЫ

У сон мой прыходзіцца з Бірыні,
Мае дарагія сябры,
Нібыта з чароўнага выраю.

О памяць жывая — купалле,
Агністая папарацьверы.
Мая! І раптоўна прапала.

Рукою нябачнаю нерат
Накінуты некім на шчасце.

Другому ўсміхнецца прыветна?
Дык хай хоць яму пашчасціць!



Адбаліць,
Адыдзе твая крыўда,
Каб у Таліне пра тое шкадаваць,
Што харошы чалавек
Не прыйдзе...

На каго ж там будзеш
Крыўдаваць?!.

## ВЯСЛО БІРЫНСКАГА ВОЗЕРА

Ліст ад Вас, як з неба белы жураў,
Да сяброў у Бірыні вяртаў.
Радасці — такі трывожны нораў!
Ажываў чароўны карнавал
У вялізнай і пыхлівай графскай зале,
Дзе прызнання словы мне сказалі
Новыя таварышы, сябры.

Ногі не краналіся зямлі —
Танцавалі мы латвійскі танец млін.
Рускія, эстонцы, латышы...
Ліст Ваш мужны — з неба белы жураў —
Крылы падымаў на ўзлёт душы.

...Горыч недаўменных крыўдных слоў.
Над палацам — зорнае сіло.
Бірынскага возера вясло.



Навошта ласкай
Прыручылі?
Святлом гаючым.
Сваім даверам
Немагчымым —
Трываць балюча.
...А калі выпадзе
Расстацца
Нядобрай воляй
І не сустрэцца
Больш ні ў полі,
Ні ў хаце болей —
Як
Перажыць?!



Зрабі.
Крок
Насустрач
Даверу.
Зрабі.
Калі любяцца зоры —
Любі.
Калі любяцца вочы —
Любі.
Калі гэтыя вочы
Аднойчы
У дарогу паклічуць —
Ідзі.
Ад любові збавення у долі —

Не прасі.
І даверу — нявер'ем ніколі
Не гасі.
Калі нехта давер абудзіў —
За даверам ідзі.

## БОР ЦВІЦЕ

Бор вясновы, чаму,
У маленні узняўшы рукі,
Свечкі ўсе запаліў?
За якія грахі
Так шчыруеш?
Дазволь
Разам з табою
Вясне памаліцца.

* * *

*Памяці Р. Кашэльнікавай*

Ні пазваніць —
На пагосце
Тэлефонная
Сувязь
Маўчыць.
Ні запрасіць
У госці,
Ні самлелых
Дзён
Надтачыць...

* * *

Як патрэбна мне
Твая радасць!
Не любоў — толькі радасць
Патрэбна...

У паэзіі
Звонкім раннем
Недапетаю
Песняй стане.

## ШТО ПАДАРЫЦЬ?

Так і не прыдумаю,
Што табе дарыць...
Можа, мудрасць вечара
Ці мо́ладасць зары?

Ці адвечнасць вір-крыніцы,
Ці святло начной зарніцы,
Ці ракі магутнай плынь,
Ці румяны цвет калін...

Можа, радасць стрэчы,
Што вясной мне кінуў
Жураўліны клін?!

Пэўна, вернасць лебядзіную,
Чалавек, адзіны мой...



Прыкархнулі шызы галубы.
Чараду гайдае крохкі ясень.
Раскудлаціў вецер ім чубы,
Ранак раскалыхваючы ясны.

Каб будзіць дасвеццем гарады,
Прыляцелі з лесу. Назаўжды.
І гайдае восеньскае ранне
Галубінае самотнае расстанне.



*Памяці аднакурсніка*
*Л. Маліноўскага*

Пасівела душой.
Яшчэ адзін,
Малады і дужы,
Быў, не стала.
А гэта ягоны смех
Званіў маладосці нашай.
Гэта ягоная радасць
Нам асвятляла дні.
Гэта яго дабрыня
Дружбу змітоўвала нашу.
...Маўчым над апошнім прыстанкам.
Толькі грукае жвір.
Дамавіна —
Белае воблака болю —
Інеем асядае на скроні,
На душы, на сэрцы.

## ДАЛЁКАМУ ДРУГУ

З вашых любімых
Кветак і сноў,
З песень адвечных
Нашых дуброў,
З чысціні
Нашых крыніц,
З блакіту азёр,
З яснасці нашых зор
Вытку для Вас
Узор...

* * *

Як доўга
Да цябе я ішла...
Праз гады няпэўнасці
Праз трывогі,
Сумненні,
Праз згрызоты пакут
Невымоўных —
Ішла,
Каб паверыць.



*Аляксандры Іванаўне Клімавай,*
*народнай артыстцы СССР*

Няўжо я прайсці па планеце,
Па гэтай Зямлі зялёнай,
Без Вас, без Вашых вышыняў,
Без Вашае Праўды адвечнай,
Без Вашай Паэзіі гордай,
Без мужнасці Вашай, як песня,
З якою Вы ступіце ў Вечнасць,—
Няўжо я без гэтага скарбу
Прайсці па планеце магла?!.



Вусны
Прагнуць агню.
Зерне —
Зямлі.
Трава —
Сонца.
Каб гарэць,
Прарастаць,
Паўтарацца
Бясконца.

## СЭРЦА МАТЧЫНА — РАНА ЖЫВАЯ

*В. П. Плехавай*

Покуль гора тваё
Развее —
Вецер сам
Горным стане.
Гора Красніц,
Гора Асвеі
Не развеецца,
Не растане.
Сэрца матчына —
Рана жывая.
Не атузваецца.
Не зажывае.
Па Хатынях
І па Асвеі —
Сэрца матчына
Не ўтравее.
Як ліхая спасцігне доля:
Страціць сына матуля,
Доню...—
Гора матчына — гора бяздоннае.
Мацярынскае гора
Не развее і не загоіць
Аніякі у свеце
Самы гаючы вецер.

* * *

Вяртаемся да крыніц,
Якія
Ратавалі ад смагі,

Да вербаў,
З якіх
Здаўся шырэйшым свет,
Да сэрцаў,
Якія
Сталі аднойчы
Роднымі...

* * *

«Кахае ці не кахае?
Прыйдзе — да сэрца прытуліць,
Кпінамі жар астудзіць?..» —
Яна на рамонках гадала,
А бель-пялёсткі на хвалях
Быстрая рэчка гайдала:
«Кахае
ці не кахае?..»

## ЧАРЫ

Да ўсіх любоў...
То, пэўна, чары,—
Дальбог, бяжыць
Па небе хмара:
Бяжыць любоў
У чацвер, ў аўторак...—
Відаць, што гэта
Работа зёлак,
Нячайна выпітых,
На сцежку вылітых...



Рэкі болю твайго,
Трывог
Упадаюць у маё сэрца.

Дык якою павінна быць
Мая радасць,
Каб не сніліся
Сны нядолі...



Арэх — сем дзіваў,
З Каўказскіх гор.
Ён прычаруе,
Пакліча ў бор.

А ты не бойся,
Не бойся, любы,—
Мо болей знойдзем
З табой, чым згубім.

## МЕЛОДЫІ СЯБРОЎ

Мелодыі ўзышлі над Беларуссю,
Закаласіліся так хораша над краем!
Калі ў вырай адлятаюць гусі,
Суквецце музыкі зямной

Мая рэспубліка вітае.
...Нібы рассунуўся прастор —
Спявае хор, народны хор!
Плыве каса, пяе каса —
Такая светла-русая
Руская краса...
І весела танцуецца,
Натхнёна, лёгка песніцца.
У восень музыкальную
Шчасліва сэрцам весніцца.
...Гудуць цымбалы мудра, як бары.
Пад спадарожныя вятры
У Беларусь з усіх дарог
Плывуць мелодыі сяброў.

* * *

Астываюць у печы
Камяні напечаныя.

Астываюць зоркі.
Астывае сонца...

Няўжо ты думаеш,
Што сэрца
Маё ніколі не астыне?!.

Няўжо ты думаеш, што вечным
Агонь у сэрцы маім будзе?!

Няўжо ты думаеш — ніколі
Табе ад палу не адбіцца?!



Я іду напрасткі той сцяжынай,
Дзе буялі, кіслілі ажыны,
Дзе арэшнік кусціўся,
Сыпаў
Шчодра арэхі ў кашы нам.
Дзе падзеліся тыя ажыны?..
Шум дажджоў.
Сум дажынак.

## НЯСПРАЎДЖАНЫЯ МАРЫ

На могільніку — кварталы.
Архітэктура,
Памяць.
І між знакамітых магіл
Сіратлівая,
Без аніякіх знакаў...
Раструбы ландышаў толькі:
Нейчыя мары няспраўджаныя
У неба глядзяць
Вачамі нявіннымі кветак.



Адпусці мяне, зняверапы.
Адпусці у немату.
Папракаеш — са мной гора?
Адпусці ты, не бунтуй.

Адпусці ў людское мора.
Памаўчы...
З журавамі у ключы
Паплыву за сіне мора.

Ці вярнуся?..
Калі песняй-весялухай,
Як бранёю, ахінуся,—
Мо й вярнуся.

* * *

Выбіраем дарогі,
Што да праўды вядуць.

Выбіраем дарогі,
Што адводзяць бяду.

Абмінаем дарогі,
Дзе камяніцца гнеў...

Справядліва і строга
Судзіць доля не ў сне.

* * *

Мы мелі з табой
Тры вясны.
Першая — ружай цвіла.
Другая — свяціла, як сонца.

А трэцяя —
                    градам,
Градам па сэрцы прайшла,
І няма куды
Сэрцу дзецца...

## ВАЛУН

Адкуль узяўся ты такі?
Чаго разлёгся на дарозе?!
Згубіў цябе ляднік?!
Які?!

Ну і пайшлі ж ледавікі:
Так і глядзяць,
                    каб на дарозе
Ці, можа, нават на парозе...

* * *

Ружай была
У семнаццаць.
Як лілея —
У дваццаць.
А ў няпоўныя трыццаць —
Лапушыцца.



Шэрая зязюля закувала
На маім жыццёвым перавале.
Неўціхана адзінокая кувала,
Жалю і трывогі дадавала.
«Ку-ку, ку-ку...» —
На разлуку.



Колькі людзей
Паўз мяне прайшло,
Запаліўшы у сэрцы маім святло!

Калі хоць на дзесятую долю
Змагла я аддзякаваць ім,—
Без шкадавання і болю
Перайду я жыццёвае поле...

Прарасту я лісточкам...
Травою,
кветкаю палявою —
Васільком
ці рамонкам?!.
Жаўранкам стану звонкім
Альбо расою?..

Але кім мне ні быць —
Ніц
упаду ў захапленні
Прад гармоніяй вечнай,
Прад зямною красою.

## ПРЫМІРЭННЕ

Было крутым вяртанне
Па коўзкіх тых буграх...
Шчаслівае братанне,
Трывожная пара —
Вірлівае прадвесне,
Пралескавы ўзыход —
І нараджэнне песні.
...Быў крыгаход.

* * *

Даруй, што здавалася мне
І да сустрэчы з табой,
Што ведала я вясну,
Што ведала я прыбой...

* * *

Пачынаецца ўсё з Любові...
З любові Сонца да зямлі — Жыццё.
З любові сэрцаў да зор — Песня.
З любові рук да працы — Хлеб.
А калі
Хлеб і песня ў нас ёсць —
Жыццё не згасне.

## ЗМЕСТ

**Загорская Н.**

З 14 Явар: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 79 с.

30 к.

Новую кнігу паэзіі Ніны Загорскай вызначае любоў да Радзімы, да Чалавека, удзячнасць бацькоўскай зямлі — за крылы і матчыну мову. Вершы паэтэсы ўвабралі ў сябе трывогі дарог і прагу адкрыцця і пазнання свету, імя якому — Сэрца...

З $\frac{70403-016}{М\ 302(05)-82}$ 53—82

**ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

**Нина Семеновна Загорская**

**ЯВОР**

**Стихи**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Р. М. Яўсееў*
Мастак *У. І. Цярэнцьеў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*
Карэктар *Т. В. Трубач*

**ІБ № 1562**

Здадзена ў набор 18.08.81. Падп. да друку 18.11.81. АТ 22610. Фармат 75×90[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,12. Ум. фарб.-адб. 3,28. Ул.-выд. арк. 3,05. Тыраж 5000 экз. Зак. 1879. Цана 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

